

# Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

Вынікі кампаніі па зборы выбарчых подпісаў насуперак афіцыйнай прапагандзе дэманструюць, што ў дэмакратычнага кандыдата ў нашай вобласьці ёсьць неблагая электаральная база. Мяркуйце самі, – паводле зьвестак абласнога выбаркаму, за кандыдатаў, якія засьведчылі сваю апазыцыйнасьць, сабрана агулам каля 65000 подпісаў (Домаш сабраў у нас 15606 подпісаў, Ганчарык – 12836). Гэта даволі значна, калі больш за паўсотні тысячаў людзей ужо на першым выбарчым этапе адкрыта засьведчылі прагу да дэмакратычных пераменаў у краіне.

Старшыня абласнога аб'яднаньня прафсаюзаў Анатоль Любчанка паведаміў, што на Магілёўскім мясакамбінаце спрабуюць ліквідаваць прафсаюзную арганізацыю. У яе склад уваходзіць 1200 чалавек. І вось нібыта ўсе 1200 чалавек напісалі заяву аб скасаваньні арганізацыі. Як лічаць у абласным аб'яднаньні, ініцыятыва падобных акцыяў належыць адміністрацыі. Адкуль насамрэч растуць ногі, здагадацца няцяжка: хутка выбары, на якіх рэальнай выглядае перамога кіраўніка прафсаюзаў краіны. Вось іх і хочуць пакараць. Дарэчы, ня першы раз і ня толькі ў нашым горадзе. А зь іншага боку, што да мяне, дык дзяржаўныя прафсаюзы такія непаважлівыя адносіны можа й заслужылі згодай і пасьлўнасьцю. Цікава, ці адстояць сябе гэтым разам.

На гэтым тыдні магілёўскія сувязісты некалькі разоў прымусілі ўсіх ўзгадаць пра сваё існаваньне. Не працавалі, напрыклад, тэлефоны ў Доме юстыцыі. Як стала вядома пазьней, сувязісты жорстка абыйшліся з чыноўнікамі абласнога ведамства за даўгі, бо 5 мільёнаў рублёў, як гаворыцца, на дарозе не валяюцца. Праўда, праз два дні маўчаньня тэлефонныя апараты юстыцыі ажылі. Загад не кранаць слугаў Фэміды да 10 верасьня паступіў да сувязістаў зь нейкага высокага кабінэта. А вось за абласную філярмонію і глускія бібліятэкі, дзе таксама маўчаць тэлефоны, заступіцца няма каму, бо што яны могуць зрабіць карыснага для выбараў...

Нешчасьлівы лёс мае ў вобласьці моладзевы культурна-асьветніцкі караван "Пілігрымы". Гэтая акцыя ладзіцца беларускай грамадзкай арганізацыяй "Next Stop – New Life" ужо ня першы год. Апошнія два арганізатары яе сутыкаюцца зь вельмі неспрыяльным стаўленьнем да сябе з боку ўладаў Бабруйску і Магілёва. Цяпер дадаліся яшчэ Крычаў і Горкі. У горадзе цэмэнтнікаў не дазволілі вольнай моладзі правесьці абвешчаны напярэдадні канцэрт. У гатэлі, дзе спыніліся пілігрымы, увесь час дзяжуравалі міліцыянты з мэтайназіраньня за побытам гасьцей. Не сароміліся, зразумела, без запрашэньня наведвацца ў пакоі маладых людзей. У горадзе студэнтаў канцэрт давялося перанесьці ў пасёлак, куды за 20 км моладзь вымушаная была дабірацца хто як.

На "Строммашы" склалася вельмі напружаная сытуацыя. Магілёўскія прафсаюзы ацэньваюць яе як перадстрайкавую. Сапраўды, рабочыя гэтага знакамітага прадпрыемства пагражаюць спыніць працу, бо ўжо тры месяцы не атрымліваюць заробку. Да таго ж тут ён толькі крыху перавышае паўсотні ў даляравым эквіваленце.

Паводле афіцыйнай статыстыкі, у вобласьці самы высокі ўзровень легальнага беспрацоўя. Ён складае 3% – гэта некалькі тысячаў чалавек. Пра схаванае беспрацоўе гаворкі няма. Дадаць сюды трэба і шматлікія страты рабочага часу, у які ніякай прадукцыі ня робіцца, а людзей трымаюць на працы па загаду "першага абаронцы рабочага клясу". Грошы, хаця й невялікія, плоцяць. А тым часам праблемы нашай "беларускай савецкай эканомікі" назапашваюцца і хутка могуць стаць зусім невылечнымі.

Па выніках мінулага паўгодзьдзя, ня гледзячы на пагрозьлівыя загады і заклікі, якія ўлада адрасавала прамысловасьці, эканамічны стан пагоршыўся. Магілёўская вытворчасьць зьменшыла выпуск гатовай прадукцыі, што найперш закранула спажывецкія і харчовыя тавары. Іншая прадукцыя дадатковымі 6-цю працэнтамі лягла на складах. Старшыня аблвыканкаму Барыс Батура ў чарговы раз запатрабаваў выправіць сытуацыю. А прамысловы дырэктарат у чарговы раз "прыняў да ведама".

Напрыканцы тыднёвай кронікі нельга не падаць інфармацыю пра магілёўскае шчыраваньне ў справе канфіскацыі ў недзяржаўных грамадзкіх арганізацыяў амэрыканскай маёмасьці, перададзенай ім у парадку дабрачыннай дапамогі дзеля разьвіцьця дэмакратыі. Камплект кампутарнага абсталяваньня быў канфіскаваны судом у крычаўскай газэты "Вольны горад", а цяпер вось – у асіповіцкага грамадзкага інфармацыйнага цэнтру. У абодвух выпадках міліцыя, пракуратура і суд інкрымінавалі дэмакратам парушэньні вядомага дэкрэту №8, паводле якога замежную дапамогу трэба рэгістраваць у адпаведных уладных структурах ды справаздачыцца аб яе выкарыстаньні.

У асіповіцкім судзе ўдзельнічаў вядомы юрыст, намесьнік старшыні БХК Гары Паганяйла. Разам з дырэктарам Магілёўскага праваабарончага цэнтру Сяргеем Абадоўскім яны прадаставілі суду вычарпальныя доказы, якія засьведчылі, што пазначанае абсталяваньне было выдзеленае амэрыканскім бокам на падставе міждзяржаўнай дамовы і задоўга да дэкрэту. Асіповіцкі судзьдзя Гаўрыкаў, дарэчы знаёмец Г.Паганяйлы, вёў працэс ветліва, уважліва, дэмакратычна. Па працэдуры. А што тычыцца выроку, быў непахісным. У тэксьце яго зрабіў некалькі "памылак", якія да граматычных, што было б бяскрыўдна, не аднясеш. І, зразумела, амэрыканскую маёмасьць судзьдзя канфіскаваў у даход дзяржавы, а кіраўніка грамадзкага інфармацыйнага цэнтра і супрацоўніка мясцовай незалежнай газэты "Панарама" Ігара Сімбірова пакараў штрафам у 50 мінімалак (прыкладна 260 ам. даляраў). На ўсё гэта Гары Паганяйла адрэагаваў такім чынам: "Падобна на тое, што вырок быў напісаны загадзя, і не ў Асіповічах. У судзьдзі таму не было ніякага манэўра. Добра яшчэ, што Сімбіроў у выніку атрымаў не 100 мінімалак штрафу, як тое было ў Крычаве".

Днямі стала вядома аб рашучай рэакцыі ўласьніка канфіскаванага абсталяваньня – ураду Злучаных Штатаў Амэрыкі. ДзяржДэпартамэнт выказаў пратэст супраць незаконных дзеяньняў беларускіх уладаў, кваліфікаваўшы іх як парушэньне ўзятых на сябе абавязкаў паводле двухбаковай Дамовы, і запатрабаваў тэрмінова вярнуць маёмасьць законнаму гаспадару. Пра рэакцыю беларускага боку пакуль ня чутна.

*Сустрэнемся праз тыдзень. Сымон Глазштэйн.*

# Патаемная зброя рэжыму

***Не такая ўжо, калі казаць шчыра, і патаемная. Аднак ад таго ня менш небясьпечная для праўдзівых вынікаў выбараў. Тэхналёгія так званага датэрміновага галасаваньня нядрэнна адпрацаваная ўладай на папярэдніх акцыях "народнага волевыяўленьня". Вось і цяпер чакаецца, што ўлада прыме захады да таго, каб людзі прагаласавалі датэрмінова, асабліва студэнцтва, якое будзе напачатку верасьня адпраўленае на ратаваньне ўраджаю. Вось што мяркуе аб усім гэтым сябра Нацыянальнай рады незалежнага назіраньня за выбарамі Алесь Бяляцкі:***

– Мы мае дакладную, правераную інфармацыю з уладных структураў пра рыхтуемую падтасоўку вынікаў папярэдняга галасаваньня і прымусовы выган людзей на папярэдняе галасаваньне. Таму мы, з аднаго боку, заклікаем людзей не хадзіць датэрмінова галасаваць, а прыйсьці на ўчасткі ў дзень выбараў. Па-другое, мы будзем працаваць зь сябрамі камісіяў і старацца "закрыць" назіральнікамі ўсе ўчасткі і ў часе папярэдняга галасаваньня. Некаторыя ўчасткі будзем кантраляваць 24 гадзіны ў суткі й даваць інфармацыю старшыням камісіяў, каб ні ў якім выпадку не паддаваліся яны пад ціск падмяніць урны,



пайсьці на парушэньне закону, бо гэта ў нас адміністратыўна й крымінальна перасьледуецца, – можна атрымаць да 5 гадоў турмы. А ўлада ў нас усё ж такі некалі зьменіцца й прыйдзецца адказваць, бо пратаколы, складзеныя назіральнікамі, застануцца. Я проста ня раіў бы такім людзям кардынальна ўплываць на лёс нашай дзяржавы, на лёс сваіх дзяцей, урэшце рэшт, на свой уласны лёс. Мы павінныя разумець, што выступаем тут разам. Мы заклікаем усіх сябраў камісіяў правесьці сумленныя, дэмакратычныя, празрыстыя выбары. Гэта – наша права, гарантаванае Канстытуцыяй. І мы павінны правесьці такія выбары, нягледзячы на ціск, які можа аказвацца ўладамі.

Мы не заклікаем людзей зрабіць нейкае парушэньне ці, наадварот, – зьдзейсьніць нейкі подзьвіг. Працуйце па законе, трымайцеся за закон, не ідзеце на парушэньне закону, калі вас будуць схіляць. Мы спадзяемся, што ўсё ж больш сумленных у нас людзей, чым несумленных.

# Вылячым усіх?..

***У абласным цэнтры нядаўна паўстала новая грамадзкая арганізацыя – "Лекарскі саюз" (гл. "ТМ"№3), якая адразу ж актыўна вызначылася добрымі справамі. Пад заклікам "Разам – зможам!" лекары выяўляюць сябе людзьмі ня вузка-прафэсійнымі толькі, але й грамадзка самастойнымі і адказнымі. Сьведчаньнем таму, напрыклад, сталася праведзенае "ЛС" анкетаваньне калегаў на актуальную тэму прэзыдэнцкіх выбараў.***

Анкета, зразумела, не пыталася ў мэдыкаў пра іх палітычныя дачыненьні і прыхільнасьці. Яна мела на ўвазе, карыстаючыся такой важкай нагодай як выбары, падштурхнуць калегаў да роздуму аб жыцьці-быцьці. Анкета цікавілася, напрыклад, тым, якімі якасьцямі, на меркаваньне мэдыкаў, павінен валодаць беларускі прэзыдэнт. Альбо – якой бы хацелі яны бачыць краіну пасьля прэзыдэнцкіх выбараў. Ці такое пытаньне: што павінен забясьпечыць галіне аховы здароўя і ўсяму грамадзтву чалавек, які апынецца на вышэйшай пасадзе...

Трэба таксама адзначыць і такую асаблівасьць анкеты, як анты-ананімнасьць, бо ейныя ўдзельнікі пакідалі пад адказамі ўласнаручны подпіс.

Што ж вынікае з атрыманых адказаў? Беларускі прэзыдэнт, як гэта лічаць больш за **30** магілёўскіх дактараў, павінен ***"мець вопыт дзяржаўнай працы, быць прыхільнікам дэмакратыі, свабоды слова і правоў чалавека, быць патрыётам краіны і палітыкам, які будзе здольны прыкметна палепшыць адносіны як з суседзямі ў Эўропе, так і з ЗША".***

Што тычыцца актуальнага для вынікаў выбараў роздуму наконт беларуска-расейскіх дачыненьняў, дык лекары (за выключэньнем трох чалавек) ***не падтрымалі пэрспэктыву ўваходжаньня Беларусі ў склад Расеі, нават на ўмовах шырокай аўтаноміі, а выказаліся за суверэнітэт,*** спадзяючыся (справядліва, зазначым ад сябе), што толькі ён дапаможа зрабіць краіну ***"дэмакратычнай і багатай эканамічна".***

Цікава, што дактары (за выключэньнем пяці рэспандэнтаў) у вядомым на сёньня сьпісе кандыдатаў ***бачаць таго чалавека, за якога прагаласуюць,*** бо ён сваёй біяграфіяй, дзейнасьцю і намерамі адпавядае тым якасьцям і палітычнаму курсу, якія прывабныя для ўдзельнікаў анкетаваньня. Нагадаем, што анкета не прасіла называць гэтага чалавека.

Што датычыць спадзеваў наконт разьвіцьця мэдыцыны і ўсяго грамадзтва, дык лекары выказаліся за тэрміновую неабходнасьць павышэньня дабрабыту людзей і палепшэньня сродкаў на ўтрыманьне мэдычнай галіны. Пры гэтым амаль у кожнай другой анкеце яны падкрэсьлілі, што гэты ўзровень павінен быць такім жа, як у большасьці эўрапейскіх краінаў.

Яшчэ адная дэталь, вартая адзначэньня. Анкета пакідала месца і права за кожным, хто вырашыў на яе адказаць, дапісаць ад сябе найбольш прывабную чалавечую якасьць, якой павінен быў бы валодаць кандыдат на прэзыдэнцкую пасаду. Некалькі чалавек адгукнуліся на гэтае запрашэньне і, не зговорваючыся, (бо працуюць у розных мэдычных установах) дадалі толькі адное вызначэньне: ***быць сумленным чалавекам.***

***Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК сацыяльных праблемаў***

КАЛЕГІ

## ЧАС ВЫЗНАЧЭННЯ: наша анкета

***1. Якім якасцям, на Ваш погляд, павінен адпавядаць прэзідэнт Беларусі?***

- Быць мужчынам
- Быць прыхільнікам дэмакратыі, свабоды слова, правоў чалавека

***2. Ці ёсць чалавек, за якога Вы прагаласуеце, сярод вядомых на сёння кандыдатаў?***

- Так

***3. Якой Вы хацелі б бачыць краіну пасля выбараў?***

- Дэмакратычнай
- Багатай эканамічна
- Суверэннай
- У саюзе з Расіяй, але палітычна самастойнай, і краінай, якая імкнецца ў Еўрасаюз

***4. Хачу, каб прэзідэнт за адведзены яму службовы тэрмін забяспечыў мне, маёй сям'і, медыцынскай галіне і кожнаму жыхару краіны...***

- Эканамічны дабрабыт, дастойнае фінансаванне, правы чалавека на прыстойнае жыццё

☼ ☼ ☼

***1. Якім якасцям, на Ваш погляд, павінен адпавядаць прэзыдэнт Беларусі?***

- Быць мужчынам
- Мець вопыт дзяржаўнай працы альбо кіравання вялікім калектывам
- Быць прыхільнікам дэмакратыі, свабоды слова, правоў чалавека
- Быць палітыкам, які будзе здольны прыкметна палепшыць адносіны як з суседзямі ў Еўропе, так і з ЗША.

***2. Ці ёсць чалавек, за якога Вы прагаласуеце, сярод вядомых на сёння кандыдатаў?***

- Не

***3. Якой Вы хацелі б бачыць краіну пасля выбараў?***

- Дэмакратычнай
- Багатай эканамічна
- Суверэннай
- Краінай, што імкнецца ў Еўрасаюз.

***4. Хачу, каб прэзідэнт за адведзены яму службовы тэрмін забяспечыў мне, маёй сям'і, медыцынскай галіне і кожнаму жыхару краіны...***

- Жыллё і перспектыўную кар'еру, фінансовую незалежнасць, пераход да платнай медыцыны, здароўе

9

# Абарані Сябе Сам

***Матэрыялы гэтай рубрыкі рыхтуюць Магілёўскае аддзяленьне Беларускага Хельсінскага Камітэту і Магілёўскі Праваабарончы цэнтар. Склад грамадзкай рэдакцыі: С.Абадоўскі, У.Краўчанка, А.Александровіч.***



## Ці пачуе міліцыя зварот праваабаронцаў

Мінула два тыдні, як ува ўсе міліцэйскія ўправы вобласьці быў накіраваны зварот **"Афіцэрам, сэржантам, шэраговым супрацоўнікам міліцыі, у абавязкі якіх уваходзіць ахова грамадзкага парадку"**. Аўтарамі гэтага дакумэнту выступілі старшыня Магілёўскага аддзяленьня Беларускага Хельсінскага Камітэту Уладзімер Краўчанка, дырэктар ГА "Магілёўскі праваабарончы цэнтар" Сяргей Абадоўскі, старшыня Магілёўскага аддзяленьня ГА "Праваабарончы цэнтар "Вясна" Аляксей Колчын.

Праваабаронцы зьвярнуліся да пералічаных вышэй службовых асобаў "як да сумленных супрацоўнікаў міліцыі, якія стаяць на варце абароны грамадзкага парадку і законнасьці" у сувязі з тым, "што ў бягучы час пачасьціліся выпадкі парушэньня законнасьці з боку асобных супрацоўнікаў міліцыі". Гэтыя выпадкі падрабязна пералічаныя ў дакумэнце *(пра многія зь іх нашыя чытачы ведаюць з ранейшых публікацыяў у "ТМ")*.

Аднак адметнасьцю праваабарончага звароту ёсьць не столькі тое, што ў ім утрымліваюцца канкрэтныя факты парушэньняў і прозьвішчы тых, хто іх дапусьціў, колькі дакладныя, выверaныя і працытаваныя спасылкі на беларускае і міжнароднае заканадаўства, якія недвухсэнсоўна ***забараняюць*** выкарыстаньне міліцыі ў палітычных мэтах. А зварот, падкрэсьлім, выкліканы менавіта тым, што міліцыю актыўна выкарыстоўваюць у змаганьні зь людзьмі, якія маюць сьмеласьць мець сваю думку і даводзіць яе да грамадзтва праз распаўсюджваньне недзяржаўных газэтаў, улётак,



IREX

правядзеньне пікетаў альбо мітынгаў.

Самы апошні прыклад гэтага тыдня – безпадстаўнае затрыманьне двума сэржантамі міліцыі ў скверы Маневіча абласнога цэнтру маладых людзей, што раздавалі мінакам спэцвыпуск газэты "Наша свабода". Загад на затрыманьне сэржанты, па іхных словах, атрымалі ад дзяжурнага афіцэра абласнога ўпраўленьня ўнутраных справаў.

Праваабарончы дакумэнт нагадвае пра прыкрыя выпадкі безпадстаўнага ўмяшальніцтва міліцыі ў дзейнасьць грамадзкай арганізацыі і незалежнай мясцовай газэты ў Крычаве. Практычна даслоўна цытуецца ў дакумэнце запісаная летась на магнітную стужку размова сьледчых Кастрычніцкага РАЎС А.Васільева і А.Боціна са сьведкам па справе, якую яны расьсьледвалі, і якую – трэба адцеміць – немагчыма ні чытаць, ні тым больш слухаць з-за мацяршчыны на кожным міліцэйскім слове. Праваабаронцы ў сувязі з гэтым нагадваюць усім міліцыянтам, што тыя ***па законе ня маюць права*** прыніжаць чалавека і наўмысна абражаць яго.

Аўтары звароту заклікаюць міліцыянтаў **"актыўна ўмешвацца і спыняць парушальнікаў закону"** сярод тых сваіх калегаў, якія **"сьвядома сталі на шлях парушэньня законнасьці"**, а таксама **"дасылаць на адрас праваабарончых арганізацыяў свае прапановы аб форме супрацоўніцтва"** на карысьць законнасьці і спыненьня свавольства ў краіне.

***Кастусь УЛАДЗІМЕРАЎ***

## Звычайны выпадак

Тыдзень таму магіляўчанка Натальля Фуфаева з вуліцы Сіманава перажыла некалькі жудасных хвілінаў, супакоіцца пасьля якіх ня можа ўсе гэтыя мінулыя дні. Ды ці зможа калі супакоіцца... Тым, хто прачытаўшы карэспандэнцыю падумае, што нічога страшэннага не адбылося, параім суаднесьці сытуацыю непасрэдна з сабой альбо якім дарагім чалавекам.

А адбылося вось што. Раніцою аднаго зь нядаўніх жнівеньскіх дзён у ейную кватэру літаральна ўварваўся чалавек, ад якога ўдалося толькі дазнацца, што ён зь міліцыі. Ні прозьвішча, ні пасады, ні прычыны ўварваньня ён не назваў і падкрэсьліў, што й намеру такога – прадстаўляцца – ня мае. Зразумела, што не было пры ім і ніякай пракурорскай санкцыі.

Аднак усё гэта не перашкодзіла яму абвесьціць гаспадыню і ейнага госьця В.Корзуна, што быў у кватэры, затрыманымі і сапраўды "даставіць" іх у пастарунак. Там В.Корзуна і ягонага сябру А.Кадаценку, які прыбег у міліцыю для высьвятленьня прычыны нечаканага затрыманьня сваіх знаёмых людзей, афіцыйна сфатаграфавалі "анфас і профіль", прымусіўшы трымаць у руках пранумэрава-



IREX

ныя картонкі. Натальлю Фуфаеву і А.Кадаценку хутка выставілі за дзьверы, а В.Корзуна (усё яшчэ без тлумачэньня прычынаў ці якіх прэтэнзіяў) зачынілі ў камэры, дзе пратрымалі больш за 4 гадзіны. Потым іншы супрацоўнік таго ж аддзелу, які назваўся опэрупаўнаважаным Марозавым, адпусьціў чалавека.

Аднак не пасьпеў ён вярнуцца ў кватэру сваёй перапужанай знаёмай, як да іх ізноў уламаўся той жа ранішні няветлівы госьць, разам зь якім быў і той самы Марозаў. Цяпер яны былі больш словаахвочымі і патлумачылі, "што ходзім там, дзе хочам, і шукаем, што нада". Абшарыўшы кватэру яны, відаць, не знайшлі таго, што ім было "нада", і сышлі – зразумела, без дадатковых тлумачэньняў, а тым больш прабачэньняў.

...А жанчыну ўсё яшчэ трасе пры кожнай выпадковай сустрэчы зь міліцыянтам на вуліцы. Невядома, ці дапаможа ёй тое, што Магілёўскі праваабарончы цэнтар выступіў у яе абарону і накіраваў адпаведны запыт у пракуратуру, у якім просіць абараніць жанчыну і засьцерагчы супрацоўнікаў міліцыі ад далейшых незаконных дзеяньняў. Як невядома і тое, ці ня сталіся падобныя паводзіны міліцыянтаў нечым для іх звычайным. І ці ня сталіся гэткія паводзіны супрацоўнікаў міліцыі нечым звычайным і для грамадзтва...

Без адказу на гэтыя пытаньні варта чакаць таго, што лічыцца ў наш час нібыта абсалютна немагчымым. Аднак, менавіта так заўсёды й пачынаецца. Ці ж не нам, нашчадкам савецкай гісторыі, ня ведаць гэтага?

***Леанід УЛАДЗІСЛАВАЎ***

## ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ НАШЫ КАРЭСПАНДЭНТЫ

### ...з Горак



***З пачатку жніўня сыравіна Горацкага лесгаса пайшла ў Літву.***

Па адпаведнаму кантракту горад узамен ужо атрымаў некалькі магутных "МАЗаў". За выручаныя сродкі таксама плянуецца пабудаваць культурніцкі цэнтар для студэнтаў сельгасакадэміі.

***Вельмі падабаюцца гасьцям зь Нямеччыны, што прыязджаюць да нас, беларускія народныя песьні.***

Сяброўства з Горкамі пачалося для жыхароў нямецкага Фрэдэна ў 1999 годзе, калі яны ўпершыню сустрэліся зь мясцовым фальклёрным ансамблем "Верасень". Займаючыся аздараўленьнем беларускіх дзетак, з таго часу яны амаль кожны год наведваюць наш гарадок, прывозяць дзецям падарункі і сьпяваюць разам з "Верасьнем". Гэтае лета на задавальненьне гасьцей і гаспадароў ня сталася выключэньнем

***Віталь АСТАНКОВІЧ***

### ...зь Бялынычаў

***У жніўні бібліятэкі раёна ня будуць атрымліваць аніводнай дзяржаўнай рэспубліканскай газэты.***

Звычайна, кожная бібліятэка ў абавязковым парадку падпісвалася на "Советскую Белоруссию", "Звязду", "Рэспубліку" ды інш. Прычына "збою" банальная: не былі своечасова выдзеленыя адпаведныя сродкі на падпіску. Затое чытачы раённай бібліятэкі могуць заўсёды пачытаць (і ў жніўні таксама) сьвежыя нумары "Народнай волі" і "Нашага слова", падпіску на якія для бібліятэкі аформілі недзяржаўныя грамадзкія арганізацыі.

***З пачатку года сярэднямесячны памер заробку па раёне, паводле афіцыйных дадзеных, складае 66680 рублёў разам з матэрыяльнай дапамогай і сацыяльнымі льготамі.***

За травень самыя нізкія заробкі атрымалі працуючыя на прадпрыемствах і ўстановах невытворчай сфэры. Напрыклад, работнікам мастацтва выплацілі па 47143 рубля, а грамадзкага харчаваньня – па 50876. А вось работнікі дзяржстраху ў тым жа траўні зарабілі па 125920 рублёў, нават апярэдзіўшы больш чым на тысячу руб. супрацоўнікаў органаў дзяржаўнага кіраваньня.



***Сфармаваная раённая каманда ад дэмакратычных сілаў, якая будзе назіраць за ходой выбараў прэзыдэнта.***

Яе сябры абяцаюць сваю прысутнасьць на ўсіх 29-ці выбарчых участках. На бліжэйшы час для іх заплянаванае правядзеньне двух навучальных сэмінараў.

***Базыль ЛІЦЬВІНОВІЧ***

### ...з Клімавічаў



***Па ўзроўню спажываньня ўсяго "гарачыцельнага" мясцовы люд намагаецца не адставаць ад суседніх раёнаў.***

Раённая міліцыя прадаставіла дадзеныя, зь якіх вынікае, што толькі за апошні тыдзень супрацоўнікі мясцовай міліцыі склалі на клімаўцаў 78 пратаколаў "за зьяўленьне ў грамадзкіх месцах у п'яным выглядзе" і яшчэ 6 – "за распіцьце сьпіртнога на працоўным месцы". А ў горадзе ўсяго-та разам зь дзецьмі і старымі ня больш за 20 тыс. чалавек...

### ...з Крычава

***Адносна танныя моцныя напоі спрыяюць росту колькасьці алькаголікаў у раёне.***

Паводле тэрытарыяльнага мэдыцынскага аб'яднаньня, зараз на дыспансэрным уліку ў наркалягічным кабінэце раённай паліклінікі знаходзяцца 698 чалавек, 111 зь іх – жанчыны. У гэтым годзе ўжо 6 крычаўцаў перанеслі так званую белую гарачку.



***Андрэй КУЗЬМІН***

### ...з Бабруйску

***30 ліпеня мінула 60 год ад стварэньня нямецкімі фашыстамі гета для бабруйскіх габрэяў, зь якога іх потым восеньню 41-га вывозілі на расстрэлы.***

У вёсцы Каменка Слабодкаўскага сельсавету ля помніка ахвярам Галакосту адбыўся мітынг-рэквіем. А ўвечары ў памяшканьні тэатра драмы і камедыі імя В.Дуніна-Марцінкевіча прайшоў тэатралізаваны паказ пад назвай "Карцінкі габрэйскага жыцьця". На мерапрыемствах прысутнічаў першы сакратар амбасады Ізраіля ў Беларусі Р.Шэхцер.

***Бабруйскае прадстаўніцтва моладзевай кааліцыі "Перамена!" вядзе актыўную мабілізацыйную кампанію, мэта якой – прывесьці моладзь 9 верасьня на выбарчыя ўчасткі.***

Прайшоў турнір па пляжным валейболе. Усе ўдзельнікі атрымалі памятныя падарункі: летнія кашулі з надпісам "Выбірай!", запісы музыкі беларускіх гуртоў ды інш. Пазьней быў праведзены конкурс малюнку на выбарчую тэматыку, пераможцы якога ў розных намінацыях атрымалі беларускія кнігі, касэты, а таксама фарбы ды альбомы. Тым часам мясцовыя "адпаведныя органы" днямі правялі допыт актывістаў Маладога Фронту "па справе выбуху на тэрыторыі расейскай амбасады ў Менску"...

***Тацяна КОПЕЦ,***
***Алёна АНДРЭЕВА***

**Прэзыдэнт Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода Том Дайн патлумачыў прычыны павелічэньня вяшчаньня Беларускай службы.**

Ён, у прыватнасьці, сказаў: "Сёньня мы павялічваем вяшчаньне на Беларусь. Чаму цяпер? Адказ вельмі просты: у верасьні павінны адбыцца прэзыдэнцкія выбары. Гэта ня проста звычайныя выбары – яны могуць вызначыць будучыню Беларусі й яе ўзаемаадносіны з рэштай Эўропы. Сёньня дзяржава Беларусь – адзіная ў Эўропе – не дазваляе Радыё Свабода мець свае перадатчыкі і рэтрансьляцыю ў краіне. Заданьне свабоднай прэсы – паведамляць навіны, аналізаваць, камэнтаваць факты і падзеі, каб грамадзяне маглі прыняць рашэньне. Гэтага бракуе ў Беларусі. І мы спадзяемся дапамагчы запоўніць гэты вакуум падчас новай праграмы 8 гадзінаў штодня".




## БЕЛАРУСКАЯ СЛУЖБА РАДЫЁ СВАБОДА

З 6 жніўня наш штодзённы эфір павялічыўся з 4 гадзінаў да 8.
Слухайце нас 6 гадзінаў увечары (18:00-24:00) і 2 гадзіны раніцай (6:00-8:00).
Новыя хвалі. Менскі час.

**18:00-24:00:** 7295 кгц (41м), 11725 кгц (25м), 15480 кгц (19м), 7190 кгц (41м), 11730 кгц (25м), 15565 кгц (19м), 9530 кгц (31м), 9750 кгц (31м), 11865 кгц (25м).

**6:00-8:00:** 6170 кгц (49м), 7295 кгц (41м), 9635 кгц (31м).

Сталая частата на сярэдніх хвалях: 612 кгц.

**У праграме:**

...навіны зь Беларусі і ўсяга сьвету, правы чалавека, апазыцыя, улада, родная мова, эканоміка, мэдыцына, культура, гісторыя, эміграцыя...

**Спэцыяльныя перадачы:**

...Праскі акцэнт, Вострая Брама, Чытальная Заля, Блізкая Эўропа, Неабжытая Спадчына, Сымбаль Веры, Беларускія раздарожжы, Адукацыя за мяжою, Новае пакаленьне выбірае, Беларускі інтэрнэт...

ІНТЭРНЭТ: http://www.svaboda.org
Паштовы адрас: 220005, Менск-5, п/с 111
Vinohradska 1, 11000 Praha 1, CZ

**НАСТРОЙЦЕСЯ НА СВАБОДУ!**

КНІЖНАЯ ГАСЬЦЁЎНЯ "ТМ"

# Назаўсёды ў выключнай ролі

***З нагоды 30-годзьдзя самай вядомай беларускай бібліятэкі па-за межамі Бацькаўшчыны – "Скарынаўкі" у Лёндане – на хвалях радыё "Свабода" прагучала адмысловая перадача, прысьвечаная слаўнай падзеі. Адным з заснавальнікаў і нязьменным кіраўніком бібліятэкі зьяўляецца айцец Аляксандар Надсан. Мы зрабілі з гэтага матэрыялу газэтны вырыянт, які й прапануем чытачам "ТМ".***

**Надсан:** Пачыналася з ідэі заснаваць установу, дзе можна было б захаваць беларускія духоўныя скарбы ад зьнішчэньня, а другое, каб даць тым, якія цікавяцца Беларусьсю, магчымасьць доступу да матэрыялаў. Ідэя паўстала сярод беларускіх сьвятароў зь беларускай каталіцкай місіі ў Лёндане. Галоўным ініцыятарам быў біскуп Часлаў Сіповіч, апостальскі візытатар для беларусаў-каталікоў у замежжы і вялікі кнігалюб. Біскуп Сіповіч кінуў задумку – давайце будзем засноўваць бібліятэку. Двое нас – айцец Леў Гарошка і я адразу падхапілі гэтую думку. У той час ідэя бібліятэкі ўжо насьпела.

Спачатку мы ўсе трое склалі свае асабістыя бібліятэкі, сабралася ўжо некалькі тысячаў кніг. Людзі прысылалі, былі вельмі добрыя дары. Экзэмпляр Статуту Вялікага Княства Літоўскага атрымалі ад сп.Галяка з ЗША. Сп.Часлаў Будзька з Чыкага сотні кніг пераслаў нам. У той час у антыкварыятах, на рынках зьявілася вельмі шмат кніг, якія нас цікавілі. Нам удалося многае набыць, людзі прысылалі грошы на пакупку...

Цяпер маем недзе 25 тысяч адзінак, абсалютная большасьць зь іх – беларускія кнігі. Мы маем 5 кніг Бібліі Скарыны, шмат іншых выданьняў 16-17 ст., напрыклад, Аляксандра Гваніні "Kronica Sarmacyey Europskiey" 1581г. Ёсьць вялікая калекцыя мапаў часоў ВКЛ. Вядома, больш шырока прадстаўленыя кнігі 19-20 ст.ст. Выданьні савецкага часу з Беларусі, думаю, ёсьць амаль што ўсе. Таксама ў нас найбольш поўна сабраны друк беларускай эміграцыі. Маем архіўныя матэрыялы, самыя найстарэйшыя з 15 ст. на пэргамэнце напісаныя, таксама 16-17 ст.ст. Але найбольш – 19 стагодзьдзя: царкоўныя архівы. 20 ст. вельмі шмат – царкоўныя, палітычныя дакумэнты, а таксама архівы беларускіх арганізацыяў і асабістыя архівы беларусаў замежжа, асабліва архівы беларускіх пісьменьнікаў. Так што, калі хто хоча вывучаць гісторыю беларускай эміграцыі, у нас ён знойдзе вельмі шмат матэрыялаў.

Заклалі мы музэй, які ёсьць вельмі важным дадаткам да бібліятэкі. Мы маем два арыгінальныя слуцкія паясы. Ёсьць старыя манэты 15 ст. Вялікага Княства Літоўскага, маркі паштовыя БНР, а таксама ёсьць узоры вопраткі, прылады працы й іншыя этнаграфічныя экспанаты. Прыязджаюць да нас навукоўцы-славісты з усяго сьвету. Шмат бывае цікаўных беларусаў, і ня толькі навукоўцаў. Мы вельмі любім тых, якія прыязджаюць з Бацькаўшчыны. Далей наш лёс будзе залежаць ад падтрымкі менавіта беларускага грамадзтва. Мы зрабілі, што змаглі. Цяпер ёсьць ужо новая эміграцыя. Калі беларускае грамадзтва захоча, каб бібліятэка існавала, то яна будзе.

*За 30 гадоў дзейнасьці бібліятэка імя Скарыны стала адным з найбольш вядомых беларускіх культурных цэнтраў у замежжы. Вось як ацэньваюць яе значнасьць тыя, каму давялося карыстацца фондамі бібліятэкі.*

**Уладзімер Арлоў, беларускі пісьменьнік:** Як у савецкія часы, так і цяпер уладныя структуры па-сутнасьці не займаюцца пашырэньнем нашай культуры ў сьвеце. У Беларусі адсутнічаюць арганізацыі кшталту Нямецкага інстытуту імя Гётэ альбо Польскага інстытуту, якія маюць свае філіі ў розных кутках сьвету. У гэтых умовах выключную ролю адыгрывае бібліятэка імя Скарыны ў Лёндане. Мне пашчасьціла працаваць у Скарынаўскай бібліятэцы, гартаць рукапісы Купалы, Коласа, Ластоўскага, якія там зьберагаюцца. Я ксэракапіяваў гравюры з кнігі Гваніні. Калі гаварыць пра збор эміграцыйных выданьняў, то ён у Скарынаўцы найбагацейшы ў сьвеце.

**Джэймс Дынглі, ангельскі беларусіст:** Я сустрэўся з айцом Аляксандрам недзе ў 1964 ці 1965г. Ён тады мяне пазнаёміў з калекцыяй кнігаў у Марыенгаўз, сабранай біскупам Сіповічам. У гэтай бібліятэцы я пісаў артыкулы, даклады на розныя тэмы. Ёсьць у ёй спэцыфічныя рысы: яна мае выданьні Скарыны й іншыя рэдкія першадрукі. Я б хацеў спадзявацца, што ўсё гэта ёсьць таксама і ў Беларусі, але калі няма, то гэта значыць, што роля Скарынаўскай бібліятэкі яшчэ больш значная.

Цяпер бібліятэка рыхтуецца да юбілейнай канфэрэнцыі, якая пройдзе ў верасьні. Яе тэма – "Роля дыяспары ў беларускай культуры", пачаткі якой у Вялікай Брытаніі заклаў у XIX стагодзьдзі паўстанец-эмігрант Аляксандар Рыпінскі.

***Ганна СУРМАЧ, Сяржук СОКАЛАЎ-ВОЮШ***

***P.S. Два дні таму айцу Аляксандру Надсану споўнілася 75 гадоў. "ТМ" далучаецца да віншаваньняў выдатнаму Беларускаму дзеячу, якія прагучалі ад беларусаў з усяго сьвету. Дачакаймася яшчэ многіх юбілееў!***

## БЕЛАПАН для «ТМ»

**Управа Сойму Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі – БНФ распаўсюдзіла адкрыты ліст да Савету Міністраў Беларусі.**

У лісьце выказаны пратэст супраць заплянаванай рэканструкцыі й пашырэньня ўчастка Менскай кальцавой аўтадарогі, што праходзіць праз Курапаты. "Усяму сьвету вядома, – пішуць фронтаўцы ў сваім лісьце, – што ў Курапатах камуністычнымі ўладамі ў 1930-х і 1940-х гадах расстраляныя і закапаныя сотні тысяч бязьвінных людзей. Савецка-камуністычны рэжым утойваў свае злачынствы, так было і з урочышчам Курапаты. Дарога праз Курапаты – гэта злачынства, зьдзейсьненае савецкімі ўладамі. Сёння пашыраць аўтадарогу праз урочышча Курапаты, будаваць на касьцях бязьвінных ахвяр – гэта значыць пашыраць злачынства".

**Адсутнасьць афіцыйных запрашэньняў з боку беларускіх уладаў наглядальнікам з Бюро па дэмакратычных інстытуцыях і правах чалавека АБСЭ выклікае сур'ёзную заклапочанасьць.**

Пра гэта было заяўлена на Кансультатыўным савеце апазыцыйных палітычных партыяў. Удзельнікі паседжаньня выказалі думку, што беларускія ўлады баяцца знаходжаньня ў нашай краіне незалежных і аб'ектыўных міжнародных назіральнікаў, якія ў сваіх адзнаках арыентуюцца на адпаведныя эўрапейскія стандарты прызнаньня выбараў справядлівымі. Такой жа думкі прытрымліваюцца і шмат якія замежныя ўрады і дэмакратычныя структуры. Ці не таму пазаўчора Лукашэнка абвесьціў, што АБСЭ ня будзе адмоўлена ў прысутнасьці на выбарах.

**17 дэмакратычных моладзевых арганізацыяў Беларусі выступілі з сумеснай заявай супраць рэпрэсіўных дзеяньняў уладаў перад выбарамі.**

Сярод падпісантаў – найбольш уплывовыя ўтварэньні моладзі, такія як Малады фронт, "Зубр", Моладзь АГП ды інш. У дакумэнце гаворыцца, што рэпрэсіі ўзмацняюцца па меры набліжэньня 9 верасьня. "Больш за 15 актывістаў МФ і маладых людзей з БНФ былі выкліканыя на допыт у КГБ... Менская міліцыя разграміла офіс маладзёжнай кааліцыі... Пасьля адной з нядаўніх акцыяў былі затрыманыя й зьбітыя некалькі дзясяткаў актывістаў зубраўскага руху... Затрыманьні, запалохваньні, зьбіваньні маладых людзей, якія актыўна ўдзельнічаюць у перадвыбарчай кампаніі, адбываюцца па ўсёй краіне". Але, нягледзячы на гвалт з боку ўладаў моладзевыя арганізацыі, запэўніваецца ў заяве, будуць працягваць сваю працу.

**А днямі моладзевая кааліцыя зьвярнулася да Ў.Ганчарыка з зваротам аб магчымай зь яе боку падтрымцы яго на выбарах пры ўмове, што ён захавае сувэрэнітэт краіны, правядзе ў хуткім часе выбары парлямэнту, узвысіць беларускую мову, верне нацыянальныя сымбалі, а таксама паабяцае Домашу прызначэньне таго старшынём урада. Адзіны ад шырокай дэмакратычнай кааліцыі кандыдат пагадзіўся практычна з усімі гэтымі ўмовамі (акрамя апошняй).**

**У Менску група грамадзянаў правяла стыхійны пікет каля Дома ўраду.**

Большасьць удзельнікаў акцыі складалі маці салдат, якія загінулі ў беларускай арміі. Жанчыны пратэставалі супраць ігнараваньня іхных праблемаў дзяржаўнымі чыноўнікамі. Кіраўнік "палаты прадстаўнікоў" Вадзім Папоў прыняць дэлегацыю адмовіўся.



Рэдактар Генадзь СУДНІК

Тыднёвік Магілёўскі

Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».
Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.
Штотыднёвік

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.
E-mail: krug@user.unibel.by
Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 6. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 09.08.2001 г. а 17.10.